# Зь міжнароднай палітыкі

Вялікае дасягненьне савецкіх навукоўцаў і касманаўтаў выклікае пытаньне, як яно адаб'ецца на міжнародную палітыку. Няма сумлеву, што саветы пастараюцца выкарыстаць гэтае дасягненьне на міжнародным форуме да канца.

На думку заходняй прэсы, апошнія савецкія касьмічныя палёты могуць мець — і напэўна будуць мець — беспасярэдняе дачыненьне да палітычных крокаў савецкага ўраду. Застаецца фактам, што гэтыя апошнія дасягненьні ў галіне навукі разглядаюцца савецкім урадам толькі зброяй у палітычнай гульні, якую ён цяпер праводзіць. Пакуль што гэта выяўляецца толькі ў галіне прапаганды. Савецкі ўрад карыстаецца посьпехамі сваіх касманаўтаў, каб абвесьціць сябе пераможцам і абсалютным гаспадаром у космасе.

Для прэсы **некамуністычнага сьвету** бадай незаўважным прасьлізнуўся адзін факт. Гэта тое, што раптам камуністычная прапаганда — у першую чаргу ў асобе самога Хрушчова – падкрэсьліла **нацыянальнасьць** двух апошніх касманаўтаў. Адзін зь іх, як ведама — Чуваш, другі — Украінец. Хрушчоў у сваёй тэлефоннай размове зь Ніколаевам чамусьці рабіў вялікі націск на тое, што ўдалы палёт Ніколаева — Чуваша — зьяўляецца вялікай падзеяй для чувасскага народу. Ну, не абыйшлося і без абабітых фразаў аб тым, што цяпер цэлы сьвет будзе ведаць, як чувскі народ пасьпяхова будуе камунізм у дружбе зь «іншымі народамі». Газэта «Праўда» зьмясьціла ліст да ейных чытачоў другога касманаўта — Украінца — Паповіча – у ўкраінскай мове. У лісьце гэтым Паповіч таксама палічыў патрэбным падкрэсьліць – ці палічылі патрэбным падкрэсьліць за яго — што ён — камуністы.

Маўляў, вось як мы заваёўваем космас – гэта вынік дружбы народаў пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі... Не стае толькі таго, каб у савецкім друку зьявіліся трактаты аб «дабрародным уплыве» ленінскай — ці можа хрушчоўскай — нацыянальнай палітыкі на заваёву космасу. А які з гэтага высноў? Выглядае, што «на дадзеным этапе» спатрэбілася чамусьці фліртаваць з нацыянальнасьцямі Савецкага Саюзу...

*

Паводля паведамленьняў карэспандэнтаў заходніх газэтаў у Маскве, ёсьць падставы меркаваць, што Хрушчоў можа асабіста прыехаць, як кіраўнік савецкай дэлегацыі, на сэсію Генэральнай Асамблеі ААН, якая пачынаецца 16-га верасьня. Ён можа паспрабаваць там запалохаць нэўтральныя краіны і прымусіць Злучаныя Штаты ды ейных саюзьнікаў пайсьці на ўступкі ў справе Бэрліну. Гэта толькі прыпушчаньні. Савецкі ўрад, калі толькі мог, вёў заўсёды палітыку з пазыцыі сілы. Гэта яму не заўсёды ўдавалася, бо, ня гледзячы на бліскучыя дасягненьні савецкіх навукоўцаў, у іншых галінах перавагі над Амэрыкай ён ніяк дасягнуць ня здолеў. Няма сумлеваў у вадным: савецкае кіраўніцтва усімі сіламі пастараецца стварыць легенду аб сваёй усемагутнасьці ў галіне ракетнай тэхнікі і нават зрабіць пэўныя канкрэтныя крокі на міжнародным форуме. Гэта можа выклікаць небясьпечны міжнародны крызіс — і, перш за ўсё, у бэрлінскім пытаньні.

*

Крыху аб іншых міжнародных падзеях, вартых увагі. У Жэнэве ня здарылася нічога новага. Савецкая дэлегацыя не зьмяніла свае пазыцыі ў пытаньні аб кантролі й інспэкцыі ядзерных выпрабаваньняў на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Кіраўнік савецкае дэлегацыі Кузьняцоў і далей дамагаецца, каб кантроль і інспэкцыя праводзіліся толькі на запросіны ўрадаў абодвух бакоў. На пытаньне аб тым, што рабіць, калі такіх запросінаў ня будзе, Кузьняцоў адказаў: «Калі ўрад якой-небудзь краіны адмовіцца прыняць прапанову Міжнароднай Навуковай Камісіі аб правядзеньні інспэкцыі на тэрыторыі гэтай краіны, тады ўсе будуць ведаць, што гэна атамная дзяржава адмовілася ад кантролю і зробяць з гэтага адпаведныя высновы».

Але ці-ж калі-небудзь савецкі ўрад зварочваў ўвагу на «адпаведныя высновы» іншых краінаў? Прыкладам, пры здушэньні вугорскае рэвалюцыі савецкі ўрад ня лічыўся з грамадзкай думкай ні падуладных яму народаў, ні іншых краінаў.

Усё-ж, нэўтральныя краіны далей працягваюць свае намаганьні прымусіць атамныя дзяржавы дасягнуць пагадненьня хоць-бы аб частковай забароне ядзерных выпрабаваньняў. Праўда — цяжка спадзявацца, што яны дасягнуць якіх-небудзь пазытыўных вынікаў — прынамся так доўга, як гэта ня будзе выгадным для савецкага ўраду. А ён-жа далей праводзіць сэрыю атамных выпрабаваньняў...

**УВАГА!** **УВАГА!**

Ужо выйшла ў сьвет цікавая й цэнная кніга Канстанціна Акулы:




Што зь сябе прадстаўляюць «Змагарныя Дарогі», чытач можа даведацца із зьмешчанага ў 1—2 (585—586) нумары «Бацькаўшчыны» спэцыяльнага артыкулу.

# АДСТУПНІКІ

Шанаваньне роднае мовы належыць да важнейшых духовых традыцыяў нашага народу. Народная сьведамасьць, вернасьць роднаму слову, стаяць побач з рэлігійнай неадступнасьцяй. Гэта вышэйшыя крытэрыі чалавечай годнасьці. Выраканьне свае мовы ганьбіцца, як духовае прадажніцтва. Прыказка кажа: «Хто мову і веру мяняў, той ня то сябе – суседа прадаваў».

Трымаючыся народнае традыцыі, нашы пісьменьнікі, навуковыя і грамадзкія дзеячы бачылі ў роднай мове жыцьцядайную крыніцу нацыянальнага самазахаваньня, няўмерласьці свайго паняволенага народу ды ўсьцяж клікалі бараніць яе ад чужацкае залевы. Лёс роднага слова і нацыянальны лёс народу сталіся паняцьцямі роўназначнымі. Вернасьць мове бацькоў была вернасьцяй Бацькаўшчыне, народу, жыцьцёвым клопатам пра ягоную нацыянальную будучыню.

«Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!» – заклікаў Францішак Багушэвіч. Маці над калыскай наказвала сыну: «будзь, чым матанька радзіла». У варожай аблозе, празь якую прабівалася беларускае адраджэньне, родсае слова сталася сьцяганосным — «каб весьці з упадку к радасьцям нязьмерным» – кажучы Купалавымі словамі. Тых, што ламалі матчын наказ і перабяглі да чужынцаў, мянялі сваю мову на іхную, Купала называў адшчапенцамі, адступнікамі. Агорнутыя вялікай роспачай, перад сконам, маці сыну – адступніку – «енкнуць голасу сабрала, бы та каня над крыніцай: – чужаніца!» А суседзі з трывогай і асудам пыталі: «Што то далей зь яго будзе?»

Гэткія сынкі–чуманіцы, што выракаюцца свайго, зьява ня толькі ўчарайшая. Сяньня, як учора панявольнік Беларусі ўсяляк ходаецца вакол расплоджваньня адшапенства, каб зь ягонай дапамогай руйнаваць-адбіраць апошняе нацыянальнае апірышча беларускага народу – ягоную мову. У прыдачу да розных палітычна-адміністрацыйных захадаў на гэта скіравана і савецкае навучаньне, у якім беларуская мова апынулася ў задніх закутках. Замест нацыянальнага ўзгадаваньня ўжо з маленства чалавеку з «малодшых братоў» убіваюць у галаву вышэйшасьць усяго таго, што й йдзе ад «старэйшага **брата**».

Па апошняй вайне парасткі адшчапенства, няхай і няўдольныя, пачалі прабівацца і на ніве літаратурнай. Для іхнай гадоўлі стварылі адмысловы часапіс на расейскай мове. З выразнай мэтай прытупілі яго пад этнаграфічна-карэнным назовам, толькі з папраўкай на расейскае вымаўленьне, – «Немен». Няхай ягоныя воды плывуць, казаў той, у вагульнае рэчышча. Тыраж гэтага часапісу больш за два разы перавышае тыраж беларускага часапісу «Полымя». Зьявіліся гэтак званыя мясцовыя расейскія пісьменьнікі зь мяшчанскага асяродзьдзя менскай Камароўкі, аршанскіх і гомельскіх завулкаў. Шчыра кажучы, нічога ня толькі выдатнага, а навет прыкметнага сярод іх няма. Дый ня можа быць такога сярод перабежчыкаў і прыстасаванцаў. На іхную долю выпадае імітацыя, а ня творчасьць.

Апошнім часам невялікі гурт аматараў-пашыральнікаў практыкаваньня ў расейскім пісьме пабольшаў на аднаго. Да іх далучыўся Алесь Адамовіч спад Слуцку. Ён быў заявіўся ў беларускай літаратуры ў ролі крытыка. Відаць, не бяз прычыны беларускія пісьменьнікі ставіліся з засьцярогай да ягонай павучальнасьці. Ужо на пачатку свае літаратурнае кар'еры ён абазваў беларускае літаратурнае жыцьцё глыбокай правінцыяй. Адступніцтва ўзяло верх. Крытык падаўся ў чужамоўную сталічнасьць. Але якраз тут і стаўся тыповым правінцыялам з благім пераймальніцтвам чужых манераў. Пра гэта сьветчыць ягоны раман «Война под крышамі». Адно дзеля заахвочваньня іншых менскае выдавецтва на тыраж раману прыдзяліла аж 25 тысяч пааособнікаў. Пра такі тыраж аўтары беларускіх кніжок могуць толькі марыць.

Бальшыня пэрсанажаў раману – Беларусы. З прыкметаў іхнай беларускасьці, і то вонкавых, аўтар захаваў адно прозьвішча, часамі імёны. Але і гэта мае як-бы дэманстравальнае прызначэньне: бачыце, Беларусы падаліся ў расейскасьць. Праўду кажучы, іх падалі. Таму яны і негаваркія ў рамане. Для цікавай гаворкі ў чужой мове ім бракуе жывых словаў. А на свае адведзена зьнікомая дзель дый з пэўнай мэтай. З аўтаравай волі яны ўжываюцца як нейкая пабытовая лякальная выпадковасьць, вымаўляецца пад расейскі ўзор, дзеля чаго гвалціцца іхная фанэтычная прырода. Такое моўнае крыўленьне спатрэбілася, бачыце, для перадачы мясцовага калярыту. Гэтак адступніцтва ад свае мовы крыжуецца з прыніжэньнем яе да жаргону. Ён ужываецца навет для пацехі, як тая зьіначаная «говяда», якая прыводзіць аднаго пэрсанажнага зуха ў сьмяхотняе захапленьне. А побач з гэтым робяцца патугі гіранізаваць з мовы антыбальшавіцкіх беларускіх газэтаў пары нямецкае акупацыі.

Негаваркіх пэрсанажаў заступае спрытнейшы ў гаворцы, як яму здаецца, сам апавядальнік – аўтар раману. Але-ж і ягонай мове бракуе жывасьці. Няма адкуль і ўзяцца натуральнасьці слоўнага выражэньня, бо чалавек апынуўся ў чужой і неапанаванай моўнай стыхіі. Таму слоўнік абмежаваны й шэры, а часта і манерны. Вычэрпваецца ён школьнымі падручнікамі, вычытаным ў іншых аўтараў, запазычаным з пакаёвага мяшчанскага ўжытку, дзе і ў рамане, такое манерніччаньне пад далікацтва – «хочу водічкі іспіць».

А калі аўтар падаецца ў вобразнасьць, дык зь невялікага слоўнікавага запасу на сьвет выходзіць з прэтэнзіяй на арыгінальнасьць звычайная бязгустоўнасьць. У рамане ёсьць пад дастаткам такога, як «отклоніться от этого взгляда», «Анютка ожіла ешче больше, как печка, в которую плеснулі керосіном». А вось дэталі чалавечага партрэту, якія, відаць, маюць выяўляць энэргічнасьць: «крепкіе желвакі ходят, как рычагі», «у рта складкі тугіе, как верёвкі», «нос горбітся поособому хішчно і радостно». Запраўды, як гаворыцца ў рамане – «словно сам із себя вывінтілся».

Ад раману застаецца прыкрае ўражаньне яшчэ й таму, бо ён нагадвае ці раз ужо чытанае ды ўлучае ў сябе жыўцоў узятыя напракат з чужога набытку ўчынкі і сытуацыі.

Ужо ў часе выданьня раману той-жа Алесь Адамовіч на заданьне у рэдакцыі прызначанага для беларускіх эмігрантаў паліцыйнага лістка «Голас Радзімы» выступіў ў ролі абаронцы беларускага народу, беларускае літаратуры й мовы нібы ад замаху на ўсё гэта з боку тэй-жа эміграцыі. А іншы ягоны хаўрусьнік па адступніцтву, які і слова не напісаў пабеларуску, падступна шукаючы сабе аднадумцаў сярод эміграцыі, дазваляе на такі зварот, як «браты-беларусы». І робіцца ўсё гэта ў стылі тыповай савецкай дэмагогіі, утойваньня праўды, з выглядам чысьцюсенькага праведніка.

Прыстасаванцы да афіцыйнае антынацыянальнае палітыкі маскоўскіх бальшавікоў здольныя на самыя нечаканыя ходы, калі яны вымагаюцца тэй палітыкай.

Яны выракаюцца нацыянальнага і адначасна выдаюць сябе за беларускіх патрыётаў. Адступніцтва нітуецца зь бяспрынцыпнасьцяй і двурушніцтвам.

**А. Б.**

# Масква ня мірыцца...

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

ваючы ягоныя словы, заміж таго, каб проста працытаваць з «Мужыцкай Праўды». Сьмірноў піша: «Каліноўскі выступае супраць забароны выкладаньня ў роднай мове, выкрывае клясавы сэнс палітыкі царызму ў галіне народнае асьветы». На самай-жа рэчы Каліноўскі пісаў вось што: «У нас, дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля. Суды маскоўскія — гэта воўчая яма, дзе не разьбіраюць, ці за табою праўда ці не, а скубуць як могуць. Бясьпечнасьці пад маскалём ніякай няма, хто дужы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кажнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю».

Ізноў паўстае пытаньне: чаму Масква забараняе і сяньня гісторыкам гаварыць праўду пра тое, што рабілася на Беларусі 100 гадоў таму?

Але з такой-жа хуткасьцяй, зь якой паўстае гэтае пытаньне, прыходзіць і адказ: у сяньняшнім палажэньні беларускага народу зашмат падабенства да таго, супраць чаго Кастусь Каліноўскі ўздымаў сваіх грозных паўстанцаў!

(Паводля матарыялаў Радыя «Свабода»)

*Часлаў Будзька*

# „ЧОРНАЯ РУСЬ" І КІЕЎСКІЯ АКАДЭМІКІ

У 1960 годзе Акадэміяй Навук Украінскай ССР (Інстытут Гісторыі) быў выданы ў Кіеве ўкраінскі пераклад кніжкі П'ер Шэвальдзе «Історія війни козаків проти Польщі» (пераклад з французскага выданьня 1663 году).

Шэвалье, апісваючы — як сучасьнік Хмяльніцкага — гэтую ўкраінска-польскую вайну (да 1652 году), калі ідзе аб тэрміналёгію — ужывае адносна ўкраінскіх зямель, поруч з аклёпаным тэрмінам «Русь», даволі дзівосны тэрмін «Чорная Русь». Нам, што праўда, ад гэтай «Чорнай Русі» ані холадна, ані горача. З увагі ж, аднак, на тое, што ўкраінскія рэдактары гэтае кніжкі прабуюць гэты цёмны свой тэрмін уцісьнуць сваім дарагім суседзям з-за балота, дык, каб ня купляць ката ў мяшку (як здарылася было раз Багушэвічу), нам вось і прыйдзецца тут заглянуць гэтай дзіковінцы ў зубы.

П. Шэвалье піша:

«Країна, де мешкають козаки, зветься Україною, що означає окраїна. Це вся територія, що простягнася понад Волинню та Поділлям і яка входить до складу Київського та Брацлавського воєводств.

«Останніми роками козаки самі стали господарями цих областей, а також частини Чорної Русі, яку вони потім змушені були залишити» б. 43).

У гэтай цытаце перш за ўсё кідаецца ў вочы, што аўтар, калі ідзе аб тэрмін «Україна»», дакладна акрэсьлівае яго адміністрацыйнымі рамкамі ваяводзтваў, калі-ж гаворыць аб «Чорнай Русі», дык гэтых ваяводзкіх рамак мы тут не знаходзім. Аднак, навет бяз гэтых бліжэйшых дадзеных можна ўсё-ж дадумацца, што «Чорнай Русяй» Шэвалье відавочна называе тыя ўкраінскія землі, якія ў той час не ахапляліся тэрмінам «Украіна». Землі гэтыя — гэта перадусім Валынь і Падоль, а далей шчэ на захад гэта — Галіччына, якая тады называлася Русьсю або Рускім ваяводзтвам. Такім чынам, Шэвалье пад тэрмінам «Чорная Русь» мог-бы разумець альбо вылучна адну Галіччыну, або Галіччыну, Валынь і Падоль.

У гэтым месцы мы маглі-б паставіць пытаньне, чаму Шэвалье, называючы Галіччыну і наагул сягоньняшнюю заходнюю Украіну «Чорнай Русяй», называе гэтую Русь «Чорнай», тады як з іншых крыніц ведама, што гэтыя землі называны былі «Чырвонай Русяй»?

Адказ на гэтае пытаньне, паколькі сам Шэвалье ня лічыў патрэбным перад намі тлумачыцца, мы, зразумела, мусім шукаць перш за ўсё ў рэдактараў гэтае кніжкі, якія агладзілі яе сваімі акадэмічнымі заўвагамі. Бо-ж на тое гэткія кніжкі й рэдагуюцца акадэмікамі, каб усе цёмныя месцы былі для чытачоў аўтарытэтна высьветлены.

Сыпярша, аднак, як пазнаёміцца з думкамі кіеўскіх акадэмікаў у справе «Чорнай Русі», я хацеў-бы тут прыгадаць, што ў тым-жа часе, г. зн. перад 1654 годам, калі гэта афіцыйным назовам гэтманскай Украіны стаўся тэрмін «Малая Расея», былі цікавыя спробы акліматызаваць на Украіне тэрмін «Белая Русь» (тэрмін, які на працягу пару папярэдніх стогодзьдзяў быў рэклямаванай шыльдай маскоўска-суздальскай зямлі). Для ілюстрацыі — пару цытатаў з тагачасных дакумантаў:

Рапарт маскоўскага пасла Г. Ункоўскага (19 красавіка 1649 г.): «И мы — гаварыў гэтман Б. Хмяльніцкі — писали к королю и к паном раде о том, будет они без измены хотят с нами мир имети и они б мир с нами учинили на том, что им, Ляхом и Литве, до нас, Запороского Войска и до Белой Руси, дела нет. И уступили бы мне и Войску Запороскому всей Белой Руси по тем границам, как владели благочестивые великие князи, а мы в подданстве и в неволе быти у них не хотим.»

У М. Грушэўскага (т. 8, ч. 3, б. 173): «По чим боці», — казаў Хмяльніцкі Ункоўскаму — «Запорозке військо та Біла Русь» (Украіна), той буде мати величезну силу і всім неприятелям страшну.»

Ліст македонскага мітрапаліта Галакціёна цару Аляксею Міхайлавічу з 27 жніўня 1648 году: «По сем ведомо чиню великому вашему царствию, как есми ехал через Литовское государство и был и виделся со многолетным и пресветлым великим гетманом Белой Руси, господином Зиновьем (Б. Хмяльніцкім), и в те поры бился он, гетман, с королем литовским при мне и побил у него ратных людей королевских 10 000 человек.»

Але вернемся да кніжкі Шэвалье і да ягонай «Чорнай Русі».

«Чорною Руссю» — пішуць у сваіх «примітках» рэдактары — «називали в Польщі у XVI—XVIII ст. південно-східну частину сучасної Білоруської РСР з містами Бобруйськом, Речицею, Несвіжем, Слуцьком, Слонімом та іншими — приблизно сучасну Гомельську та частину Могильовської області, — саме ту частину Білорусії, яку раніше від інших було приєднано до Литви.» (б. 166).

У гэтым сваім выясьненьні рэдактары чамусьці ані словам не заікнуліся аб аўтары рэдагаванай імі кніжкі, відавочна спадзяючыся, што ўкраінскі чытач настолькі інтэлігентны, каб самому дагадацца, што Шэвалье, жывучы ў часе апісваных падзеяў пры французскім пасьле ў Польшчы, ня мог ня быць у залежнасьці ад польскай тэрміналёгіі. Але як-бы там ня было, узброенны акадэмічным выясьненьнем адносна тэрміну «Чорная Русь», нам нічога не астаецца, як яшчэ раз глянуць на цёмныя месцы Шэвальеўскае кніжкі праз іхныя акадэмічныя вакуляры і навочна пераканацца, на колькі лепш мы цяпер разумеем тое, што пісаў гэты француз:

«Поляки завжди чинили опір усім, навіть найгрізнішим ворогам, і все ж ці війни не здавалися їм такими небезпечними, як війна з козаками, що розпочалася 1648 р., майже в момент смерті короля, бо ці бунтарі втягнули у свій заколот мало не все населення Чорної Русі» (б. 68).

Ня ведаю, як хто, але я асабіста гэты тэкст бяз рэдактарскай помачы разумею куды лепш, як з іхнай сьветлай помаччу. Бо калі «Чорную Русь» разумець так, як яны выясьняюць, дык тады і «населення Чорної Русі» ня было-б украінскім народам, а што за гэтым ідзе — і ў «нацыянальна-вызвольнай вайне ўкраінскага народу» — як гэты пэрыяд украінскай гісторыі называюць украінскія гісторыкі, украінскі народ ніякага ўдзелу ня браў-бы. Але-ж так думаць мог-бы толькі чалавек бязграматны, з чым згодзяцца і кіеўскія акадэмікі. Яны затым мусілі-б згадзіцца і з тым, што толькі бязграматны чалавек мог даць такое бязграматнае выясьненьне тэрміну «Чор-

# Шчасьлівая разьвязка?..

## (Скуль пайшоў назоў «Беларусь»?)

Гэта — не адказ сп. Вялікаліцьвіну на ягоныя закіды й высновы, зробленыя ў артыкуле «Як паўстаў назоў „Беларусь"», што быў зьмешчаны працягам у 10–11 нумарох «Бацькаўшчыны». Мы тут маем на ўвазе тэорыю М. Сарафанава, выведзеную ў сэрыі артыкулаў пад загалоўкам «Слово об одном юбилее», якая друкавалася ў ведамай расейскай газэце з ЗША — «Новое русское слово».

У 7-м, заключным разьдзеле гэтае сэрыі («Новое русское слово», 11. 6. 1962) М. Сарафанаў даводзіць, што назоў «Беларусь» ёсьць ні чым іншым, як няўдалай транскрыпцыяй аўтэнтычнага назову «Былая Русь» ці «Быларусь». Згодна М. Сарафанава, яшчэ задоўга да ўзьнікненьня гістарычнае Кіеўскае Русі на тэрыторыі сучаснае Беларусі існавала першапачатковая, «магутная» дзяржава ўсходняга славянства, якая й звалася «Русьсю» ці была **аўтэнтычнай** «Русьсю». Цэнтрам гэтае дзяржавы быў Полацак. Калі-ж пазьней гэты цэнтр перамясьціўся ў Кіеў, а кіяўляне ці «прышэльцы» Паляне прысабечылі назоў «Русь», тая старая, «аўтэнтычная Русь» стала называцца «Былой Русьсю». У паўднёвай гаворцы апошняя Русь пачала вымаўляцца, як «Біларусь», а потым «няграматныя пісакі» «і» сталі пісаць праз «яць» і з «Былай Русі» ўтварылася «Беларусь».

М. Сарафанаў ня ставіць пад сумліў, ці запраўды старажытная Полаччына й Смаленшчына зваліся Русьсю. Свае разважаньні й высновы адносна гэтае «Былое Русі» ён асноўвае на некаторых дадзеных «Слова аб палку Ігаравым», пайменна на спасылках гэтага эпічнага твору на «век Траяна» ці «Траянаў», а таксама на эпапэю полацкага князя Ўсяслава Чарадзея. М. Сарафанаў думае, што названы ў «Слове аб палку Ігаравым» Траян быў ня толькі паганскім Богам, але што гэтым імем славяне называлі й хрысьціянскага Бога. Гэта — хрысьціянская Тройца. Скуль «век Траяна» — гэта хрысьціянская эпоха. Выходзячы з таго, што ў «Слове аб палку Ігаравым» сказана: «На седьмомъ веце Трояни връже Всеславъ жребій о девицю себе любу...» («На сёмым веку Траянавым кінуў Усяслаў лёс пра дзяўчыну яму любую...»), М. Сарафанаў робіць выснаў, што тут ідзе мова не пра Ўсяслава Брачыславіча, які жыў у XI стагодзьдзі, але пра іншага «вялікага» й «слаўнага» полацкага князя Усяслава, князя «старое Русі», што жыў і тварыў цуды **ў VII стагодзьдзі** нашай хрысьціянскай эры.

М. Сарафанаў не аналізуе глыбей сэнс і лёгіку «Слова аб палку Ігаравым». Ён навет у песьні гэтага «Слова» пра Ўсяслава Чарадзея дапускае некаторыя патрэбныя яму папраўкі, як замену рачулкі Нямігі на раку Нёман ці места Дудуткі на вусьце Дунаю. Паэтычны перасьпеў: «Тому въ Полотске позвониша заутренюю рано у святыя Софеи въ колоколы, а онъ въ Кыеве звонъ слыша» («Яму ў Полацку пазванілі да Ўтрані рана ў званы Сьв. Сафіі, а ён у Кіеве звон гэты пачуў») М. Сарафанаў разумее, не як выказваньне тугі Ўсяслава па роднаму Полацку, але як асэнсаваньне «казачнай хуткасьці» ягоных баявых рухаў. Тым часам М. Сарафанаў «Слова аб палку Ігаравым» называе «дарам Божым» для «рускае гістарычнае навукі», бо яно быццам-бы памагае адрадзіць «рускую гісторыю ўва ўсёй ейнай веліччы»; пайменна зьнішчае «нарманскую тэорыю» пра ўтварэньне Кіеўскай Русі ды вядзе нас у «сівыя далі багатай рускай гісторыі». «Полацак — гэта пра-Масква, тое сэрца старажытнай Русі, дзе завязалася ейная магутнасьць і веліч, якія, ня гледзячы на ўсе выпаўшыя на ейную долю выпрабаваньні, жывуць і працьвятаюць да сяняшняга дня», — заключае М. Сарафанаў.

Бязумоўна, мы згодныя з М. Сарафанавым, што «руская раўніна» між пунктамі Ноўгарад—Кіеў ня была пустым месцам і што тут ня жылі «зьверападобныя дзікуны», як гэта тэндэнцыйна цьвердзяць кіеўскія летапісы. Аднак нельга прыняць за праўдападобную ягоную канцэпцыю, быццам тэрыторыя сяняшняй Беларусі калісьці называлася «Русьсю», а потым «Быларусьсю», як нельга згадзіцца зь перанясеньнем князя Ўсяслава з «Слова аб палку Ігаравым» у VII стагодзьдзе. Гэта новая няўдалая спроба Расейцаў штучна ўлучыць нас у іхную «адзіную недзялімую».

Найстарэйшыя хронікі, якія дайшлі да нас, не пакінулі сьледу, які сьветчаў-бы, што старажытныя Полаччына, Смаленшчына й Тураўшчына ў нацыянальна-дзяржаўных адносінах называліся Русьсю. Раней Русьсю звалася Кіеўшчына, потым гэты назоў стаў пашырацца на Чарнігаўшчыну, Севершчыну й Куршчыну, а ў некаторых дачыненьнях — на Ноўгарадчыну, Суздальшчыну й навет Смаленшчыну (у сувязі з тым, што гэтыя землі праз доўгі час знаходзіліся ў палітычнай залежнасьці ад Кіеўскай Русі, ці, тым ці іншым чынам, былі зьвязаныя зь ёю). Полацкае княства, якое ў той час было разьвітай і незалежнай дзяржавай, а таксама падпарадкаваныя Кіеву Смаленшчына й Тураўшчына называліся проста або гэтымі назовамі, або племяннымі назовамі — Крывічы, Дрыгвічы й г. д. Калі ўважліва прачытаць і прааналізаваць «Слова аб палку Ігаравым», дык такое разрозьніваньне мы сустрэнем і ў гэтым літаратурным творы з канца XII стагодзьдзя. Праўда, аўтар гэтага твору назовам «Русь» ахоплівае шмат абшырнейшую тэрыторыю ды ўключае сюды й Смаленшчыну, разумеючы ўсё гэта як адзіную нацыянальна-дзяржаўную цэласьць, хоць і ў глыбокім працэсе свайго распаду. Наадварот, Полацкае княства, хоць і раздробленае цяпер на некалькі ўдзельных княстваў, у «Слове аб палку Ігаравым» стаіць асобна. Гэта — ня Русь, але Полаччына ці «грозныя палачане». Тым больш гэта тычылася эпохі Ўсяслава Чарадзея, пра што сьветчыць і аўтар разгляданага твору.

Звяртаючыся да «рускіх князёў», каб яны памсьціліся за паразу Ігара Сьвятаславіча (героя твору) і злучыліся ў вабароне «Рускае зямлі» ад Полаўцаў, аўтар «Слова аб палку Ігаравым» пералічае суздальскага князя Ўсевалада, смаленскіх князёў Рурыка й Давыда (гэтым часам яны княжылі ў Кіеўшчыне), галіцкага князя Яраслава Асмамысла, валынскіх князёў Рамана й Мсьціслава, а таксама Інгвара й Усевалада. Ссылка на Полаччыну й полацкіх князёў тут робіцца зусім зь іншай мэтай. Прывядзем гэтае месца: «Ужо й Сула не цячэ срыбнымі струменьнямі пад горад Перэяслаўль, а Дзьвіна балотам цячэ да тых грозных палачанаў пад клікам паганых. Адзін Ізяслаў, сын Васількаў, пазваніў сваімі войстрымі мячамі аб шлёмы літоўскія, перабіў славу свайго дзеда Ўсяслава, а сам пад чырвонымі шчытамі на крывавай траве быў прыбіты літоўскімі мячамі... Ня было тут ні брата Брачыслава, ні Усевалада (?); адзін ён выпусьціў жамчужную душу із харобрага цела праз залатыя каралі...». Як бачым, ссылка гэтая зроблена для параўнаньня, што й Полацкае княства таксама перажывае долю Русі, бо й тут, як на Суле Полаўцы, тывожаць палачанаў-Крывічоў «пагане»-Літоўцы. Аб тым, што аўтар «Слова аб палку Ігаравым» разьмяжоўваў Полацкае княства ад Русі, вельмі добра сьветчыць наступная вытрымка з гэтае песьні: «Яраслаў і ўсе ўнукі Ўсяслававы! Ужо сьхіліце сьцягі свае, укладзіце свае мячы пашкоджаныя: ужо бо (вы) выскачылі із дзедаўскай славы. Бо вы сваімі звадамі пачалі наводзіць паганых на зямлю Рускую, **на спадчыну Усяслава**; з-за гэтае звады сталася насільле ад зямлі Полаўцаў!».

Яраслаў тут, ведама, зьяўляецца сучасным аўтару «Слова» чарнігаўскім князем — Яраславам Усеваладавічам. Гэта ня праўнук Усяслава Чарадзея, ня менскі князь, як гэта думаюць савецкія гісторыкі. Што гэта так, а ня інакш, вынікае зь песьні пра кіеўскага князя Сьвятаслава Ўсеваладавіча, дзе апошні скардзіцца: «І ўжо ня бачу ўлады магутнага, багатага й ваяўнічага брата майго Яраслава з чарнігаўскімі баярамі, дружыньнікамі... гэтыя навет бяз шчытоў з нажамі крыкам палкі перамагаюць, звонячы прадзедаўскай славай». І запраўды, на што скардзіцца аўтар, ад сябе ці голасам кіеўскага князя, чарнігаўскі князь Яраслаў каваў «крамолы», унікаючы супольнага змаганьня супраць Полаўцаў. Як перад паходам Ігара, так і пасьля гэтага паходу ён адмаўляўся ад агульных паходаў супраць Полаўцаў, у выніку чаго гэтыя паходы зусім зрываліся ці не дасягалі мэты. Вось-жа, даючы агульны малюнак, аўтар «Слова» бярэ Яраслава чарнігаўскага, як прадстаўніка «Рускай зямлі», а полацкіх князёў, як прадстаўнікоў іншае дзяржавы — «спадчыны Ўсяслава» ці Полацкага княства. Такім чынам, тут Полацкае княства супрацьпастаўляецца Кіеўскай Русі.

Што ідзе далей, песьняй пра Ўсяслава Чарадзея аўтар «Слова» таксама падкрэсьлівае гэтую апрычоннасьць Полацкага княства, маючы на ўвазе ягоную слаўную мінуўшчыну, бо Ўсяслаў і «разьбіваў славу» Яраславу (Уладзімеравічу), здабываючы Ноўгарад, і «засяваў касьцямі рускіх сыноў» берагі Нямігі, ды навет, хоць і не з свае амбіцыі, даткнуўся кіеўскага вялікакняжага пасаду й, не жадаючы змагацца за гэты пасад, «лютым зьверам» адскочыў ад яго й падаўся ў сваю Полаччыну.

Быў Ўсяслаў з «Слова аб палку Ігаравым» полацкім князем з XI стагодзьдзя (1044—1101), ці легендарным князем «старое Русі» М. Сарафанава? Бязумоўна, ён быў першым, бо імя ягонае зьвязана з падзеямі гэтага XI стагодзьдзя. Што-ж тычыцца «века Траяна» ці наагул Траяна, пра што ў «Слове» ўспамінаецца ажно чатыры разы («рища въ тропу Трояню чресъ поля на горы», «Были вечи Трояни», «вступила девою на землю Трояню» й «На седьмомъ веце Трояни»), дык тут мова йдзе не пра «хрысьціянскага Бога», «Тройцу» ці «хрысьціянскую эру». Апошняя здагадка не падцьвярджаецца наступным сказам «Слова»: «Были вечи Трояни, минула лета Ярославля; были плъци Олговы, Ольга Святославичя». Тут гаворыцца, такім чынам, пра штосьці **мінулае**, у той час, як хрысьціянская эпоха ды й Тройца існавалі й пры аўтару «Слова аб палку Ігаравым». Выходзячы з таго, што ў вадным месцы северскі князь Ігар, герой «Слова», называецца «ўнукам Траяна» («...рища въ тропу Трояню чресъ поля на горы! Пети было песнь Игореви того внуку»), а ў другім месцы імя Траяна зьвязваецца зь зямлёй усходніх славянаў («Въстала Обида въ силахъ Дажьбожа внука, вступила девою на землю Трояню...»), праўдападобна трэба дапусьціць, што Траян быў князем, абвеяным легэндамі. Апошняе падцьвярджае таксама: «Были вечи Трояни» ці «На седьмомъ веце Трояни». Дарэчы заначыць, што імя Траян ня было чужым для ўсходніх славянаў. Напрыклад, вялікі князь літоўскі Тройдзень таксама ў летапісных крыніцах выступаў як **Троен** ці **Траян.**

Гэта праўда, што «Слова аб палку Ігаравым» зьяўляецца ня толькі літаратурным помнікам, але й гістарычнай крыніцай. Гэты помнік вельмі важны й для нашае гісторыі. Як зазначалася вышэй, ён насьвятляе гісторыю Полацкага княства, як апрычоннае й палітычна незалежнае дзяржавы, зусім нязвязанае зь Русьсю. У песьні пра Ўсяслава Чарадзея, хоць падзеі перастаўленыя й паказаныя ў алегарычнай форме, насьветлена слаўнае мінулае Полацкага княства XI стагодзьдзя. **Усяслаў Чарадзей** «раскрываў вароты» Ноўгараду, «зьніжыў славу» Яраславу й ягоных сыноў, а галоўнае ў бітве пры Менску берагі Нямігі «засеяў касьцямі рускіх сыноў». Кіеўскія летапісы нам паведамляюць, што ў бітве на Нямізе 1067 году Ўсяслаў пагалоўна быў разьбіты. Калі гэта было так, дык чаму ў такім выпадку «пераможная» кіеўска-чарнігаўска-перэяслаўская злучаная армія не пайшла на Полацак, дарога куды была «адкрытая», але завярнула ў Смаленшчыну, дзе стала лягерам за Дняпром. Сюды пайменна быў запрошаны Ўсяслаў Чарадзей быццам-бы для перамоваў, але як толькі ён зьявіўся ў варожы лягер, паверыўшы прырачэньню на крыжы, ён з сынамі быў схоплены й адвезены ў Кіеў, дзе й трапіў у цёмныя скляпеньні. Значыцца, мае слушнасьць аўтар «Слова аб палку Ігаравым», бо інакш кіеўскія князі не патрабавалі-б дзейнічаць здрадным спосабам.

Маленькая папраўка. Савецкія гісторыкі ў Дудутках (скочи влъкомъ до Немиги съ Дудутокъ») бачаць мястэчка з гэтым назовам, што знаходзіцца каля Ноўгараду. Больш праўдападобна, аднак, што гэта былі беларускія Дудуткі, сяньня вёска Дудзічы, якая ляжыць каля Сьвіслачы недалёка Пухавічаў. Ад Ноўгараду Ўсяславу было даволі далёка «скакаць», каб перагарадзіць дарогу варожай арміі. Ён, бачна, «скочыў» неспадзяванна з Дудзічаў. Як ведама, бітва на Нямізе адбылася глыбокай зімой (3 сакавіка). Адзіным хутчэйшым шляхам з Полацку маглі служыць толькі замёрзлыя рэкі. Вось-жа на пярэймы ворагу Ўсяслаў з сваім войскам спяшыў ракой Беразіной. Дамкнуўшы Сьвіслачы й дазнаўшыся, што варожая армія прайшла ўжо пад Менск, Усяслаў зьвярнуў на Сьвіслач і з «Дудутак скочыў да Нямігі».

Нам думаўцца таксама, што ня можна так надужываць, як гэта вельмі часта робяць савецкія й наагул расейскія гісторыкі, перасьпевам «Слова»: «На сёмым веку Траянавым кінуў Усяслаў лёс пра дзяўчыну яму любую. Ён хітракамі абпёршыся на каня, падскочыў да гораду Кіева й дакрануўся дзідаю кіеўскага залатога пасаду». Гэта тлумачыцца названымі гісторыкамі, як-бы й запраўды Ўсяслаў вельмі імкнуўся захапіць «спадчынны» вялікакняжы пасад. Між іншым, гэта толькі мастацкія прыёмы, гістарычная вартасьць чаго нэўтралізуецца наступным такім-жа прыёмам: «Адскочыў ад іх (ад Кіеве й княжага пасаду) лютым зьверам». Гістарычна ведама, што Ўсяслаў ня сам захапіў кіеўскі вялікакняжы пасад, але быў пасаджаны на яго кіяўлянамі. Узбунтаваўшыся, яны высеклі Ўсяслава зь цямніцы. Пасьля Ўсяслаў уцёк зь Кіева (спад Белгараду) і ўцёк не таму, быццам-бы спалохаўся выгнаньніка Ізяслава, што прыйшоў пад Кіеў з польскай арміяй, але таму, што не жадаў змагацца за чужыя інтарэсы й за гэты кіеўскі «залаты пасад». Можна было-б яшчэ варажыць, калі-б Усяслаў уцёк пасьля паразы, аднак ён зьбег, ня прыняўшы яшчэ бою зь Ізяславам і пакінуўшы верных яму кіяўлян у роспачы. Таму аўтар «Слова аб палку Ігаравым» і дадае: «Яму (Усяславу) ў Полацку званілі

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

---

ная Русь», якое, нічога не высьняючы, зьбівае толькі чытача з панталыку, выварачвае думкі аўтара дагары нагамі, абніжаючы вертасьць гэтай кніжкі, як гістарычнага помніка.

Вось-жа, калі ўважаць, што рэдактары гэтае кніжкі людзі запраўды бязграматныя, іхнае высьненьне (ці зацямненьне) «Чорнай Русі» было-б тады ня чым іншым, як мэханічна-бяздумнай выпіскай з нейкага школьнага падручніка, аб якіх гэта ўжо 70 гадоў таму кіеўскі прафэсар В. Іконьнікаў пагардліва гаварыў: «Учебники — нередко последнее убежище давно уже опровергнутых наукою взглядов и заблужденій.»

Але калі ўважаць, што яны не такія ўжо дурні, як можа каму здавацца, дык тады трэба было-б прызнаць, што за кулісамі іхнага бязграматнага высьненьня тэрміну «Чорная Русь» хавацца нейкая т. зв. вялікая палітыка. Сэнс такой палітычнай махінацыі зводзіўся-б, напрыклад, да таго, каб, перакінуўшы «Чорную Русь» з украінскай зямлі на літоўскую (гістарычная навука ў іх, што дышла, куды павярнуў, туды і вышла), выразаць такім чынам з нашай зямлі нейкую «паняволеную тэрыторыю», патрэбную ім па тое, каб украінскіх казакаў, што хадзілі ў Літву з мячом і торбай, лягчэй было паказаць украінскім чытачом, як «вызвольнікаў».

У гэтым мы можам упэўніцца, параўнаўшы, напрыклад, дэфініцыю «Чорнай Русі», дадзеную М. Грушэўскім («т. зв. Чорна Русь — волости в районі полудневих притоків Німана — Новгородок, Несвиж, Слоним, Вотковийськ, і верхньої Ясольди — Здитов», т. 2, б. 303), з той, якую даюць рэдактары кніжкі Шэвалье («південно-східна частина сучасної Білоруської РСР... приблизно сучасна Гомельська та частина Могильовської області»). Рэдактары, як бачым, «Чорную Русь» адсоўваюць далей на ўсход, ці інакш кажучы — бліжэй да раёну тагачаснай украінскай ваеннай акупацыі. Гэтман Б. Хмяльніцкі, як ведама, назначаючы у 1656 годзе гаўляйтарам у гэтую акупацыйную зону свайго палкоўніка Івана Нечая, даў яму тытул — «палкоўніка беларускага, магілеўскага і гомельскага». Такім чынам, кіеўскія акадэмікі пад тэрмінам «Чорная Русь» разумелі-б тое самае, што іхны Хмяльніцкі ў тым часе называў «Белай Русяй». (Каляровымі Русямі, як бачым, яны гандлююць, як цыган малёванымі коньмі, хоць, як той казаў, усе гэтыя Русі, як іх мёдам не шмаруй, Траянскім канём сьмярдзяць).

Між іншага, падобную палітычную махінацыю з тэрмінам «Чорная Русь» мы наглядаем таксама і ў польскага палітгісторыка Я. Рэмбэлінскага, які ў сваёй Гісторыі Польшчы, выданай пасьля вайны, стараецца пры помачы гэтага-ж самага тэрміну апраўдаць і Рыскую мяжу і польскія прэтэнзіі да нашых заходніх зямель:

„Na wschód (od późniejszej Żmudzi) znajdowała się Ruś Czarna, od Grodna do Nowogródka i Głębokiego, na której terytorium znajdowało się też i Wilno. Język tej Rusi, język statutów litewskich j latopisów, przechował się na Litwie następnie jako urzędowy jeszcze przez dwa długie stulecia. Język ten, którym mówił Jagiełło, bliski pod wielu względami polskiemu, wpłynął też na polszczyznę... Ta też następnie Czarna Ruś, przyjąwszy katolicyzm, spolonizowałasię całkowicie: wydała Mickiewicza, w niej znajdowało się „centrum polszczyzny" — Soplicowo..."

У гэтых мадэрных спробах заежджаную кабылу гісторыі ўпрэгчы на службу польскага імпэрыялізму ёсьць, між іншага, доля праўды, а менавіта, што Вільня і Віленшчына былі славянскімі, а ня балцкімі. І тут ён лье ваду на наш млын, што праўда — нясьведама, падобна, як нашыя тэарэтыкі, выдумляючы нейкіх літоўскіх люцічаў, як дзяржаўна-творчае племя, нясьведама падліваюць ваду на польскі млын.

Вяртаючыся да кніжкі Шэвалье і да скандальных разыходжаньняў у тэрміналёгіі паміж ім і ягонымі ўкраінскімі рэдактарамі варта цяпер затрымацца над пытаньнем: якім гэта тэрмінам называе Шэвалье тыя землі, якія ён мусіў-бы назваць «Чорнай Русяй», калі-б гэты тэрмін ён разумеў так, як хочацца ягоным рэдактарам, каб мы паверылі, што ён яго так і разумее.

П. Шэвалье піша:

«1596 р. король Сігізмунд Третій після скарги султана заборонив козакам провадити свої звичні походи на Чорне море, і вони справді припинили їх; але натомість козаки кинулися тоді на Русь та Литву, де вони заподіяли нечуваних спустошень під проводом свого отамана Наливайка» (б. 35).

Я думаю, што кожны згодзіцца, што Шэвальў тут тэрмін «Русь» ужывае ў тым самым значаньні, што на іншых месцах ён акрэсьлівае тэрмінам «Чрная Русь», а тое што ягоныя рэдактары хацелі-б, каб ён назваў «Чорнай Русяй», ён называе «Літвой».

«Бог виявився прихильним до поляків як на Русі, так і у Литві, де він, як кажуть, своєю рукою витягнув обидва польські війська з небезпеки, в якій вони, за всіма людськими припущеннями мали б загинути.

«Повстання козаків та руських селян (на Украіне) поширилося з самого початку цієї війни у Литві тим легше, що народ цієї провінції (Літвы) досить близький звичаями та релігією до руських (г. зн. да ўкраінцаў).

«Козаки, увійшовши в двох різних місцях до Литви, зробили декілька походів на Полісся, країну, вкриту лісами та великими болотами, ..., захопили за допомогою підступного простолюддя, яке сприяло наскокові козаків, міста Стародуб та Гомель» (б. 98).

Мала таго, гаворачы напрыклад аб Жыровічах: «король, який саме та той час поїхав був на прощу до Журовицiв — місця богомілля у Литві», — Шэвалье нават ня прыйшло ў галаву, што маленькай заменай слоў «у Ліцьве» на «у Чорнай Русі», ён мог-бы гэтым бязьмежна прыслужыцца сваім украінскім рэдактарам, для якіх «Чорная Русь», што здохлая мыш у зубах — і праглынуць агідна і выплюнуць шкода...

А наагул, трудна ўсё-ж зразумець, чаму кіеўскім акадэмікам не спадабалася, што Шэвалье ўкраінскую зямлю назваў «Чорнай Русяй»: ён-жа мог яе назваць так, нічога благога не падумаўшы. На мой розум, напрыклад, каб я быў на месцы гэтага Француза і мне прышлося-б падшукаць нейкі адпаведны назоў для ўкраінскай зямлі, я ня выдумаў-бы нічога лепшага ад таго, які ён ужыў. На геаграфічных картах таго часу (таксама як і ў кніжках) Маскоўшчына была азначывана падвойным тэрмінам: «Масковія або Белая Русь». Гэты белы колед вельмі добра спалучаўся ў людзкіх уяўленьнях з краінай вечных сьнягоў і з белымі медзьвядзямі на вуліцах сталіцы белага цара. Дык вось, каб адрозьніць украінскую Русь ад маскоўскай, які-ж тады лепшы колер, калі ўжо ён патрэбны, мог-бы найбольш адпавядаць людзкім уяўленьням аб украінскай зямлі, калі ня колер чорназемны? Гэта аднак справы вузка суб'ектыўныя, але як слушна казаў Кандрат рэдактараў брат: думай, як хочаш, толькі волю рукам не давай.

**(Далей будзе)**

